# АД РЭДАКЦЫІ

У 10-11 нумары нашага часопіса тадышні галоўны рэдактар Аляксандр Максімюк катэгарычна заявіў, што "Сустрэчы" будуць органам Рады культуры Студэнтаў беларускай нацыянальнасці да скону дзён /або Рады культуры/. Яго словы былі прарочымі,але толькі для Рады. Мінулы год не паказаў аніякіх праяваў ейнага жыцця. Трэба адкрыта сказаць- Рада культуры даканала свой век. Слава ёй за тое, што зрабіла дзеля інтэграцыі студэнцкага асяроддзя. Прыйшоў новы час, змянілася сітуацыя. Усім стала ясна, што не будзе ніякіх грошай на нашу выдавецкую справу з боку старога мецэнаса - Згуртавання польскіх студэнтаў. Праўда, і ў мінулым з гэтым мецэнатам бывала па-рознаму. Не адзін нумар "Сустрэчаў" быў надрукаваны за грошы рэдактараў і спагадлівых старэйшых сяброў. Апека ЗПС зводзілася да легалізацыі часопіса і дазваляла аформіць неабходныя клопаты з цэнзурай. Цяпер ніхто хіба ў Польшчы толкам не ведае, ці цэнзура ўвогуле існуе. Калі нават так, выдаецца, што яе інгерэнцыя звядзецца да пільнавання больш уплывовых выдавецтваў і "Сустрэчы" праблемаў з ёю мець не будуць. Адышла, значыць, патрэба мець апекуна і мы, дапасоўваючыся да так моднай цяпер у краіне плыні самастойнасці, паспрабуем стаць незалежнымі - аб'ектыўна прадстаўляць інфармацыю пра жыццё беларускага студэнцтва ў Польскай Рэчыпаспалітай.

Уважліваму назіральніку не сакрэт, што найбольш актыўны і відавочны элемент беларускага студэнцтва на сённяшні дзень гуртуецца ў Беларускім аб'яднанні студэнтаў. Сюды прыналежаць і цяперашнія рэдактары "Сустрэчаў", якія аб'ектыўную інфармацыю пра асяроддзе разумеюць перад усім, як апісанне ўсялякіх формаў дзейнасці БАСу. Гэтая арганізацыя мае ў сваім статуце запісаную самастойнасць і незалежнасць ад усялякіх палітычных плыняў. На II З'ездзе БАСу была прынята пастанова аб ратаванні"Сустрэчаў". Каб "Сустрэчы" не памерлі разам з РК СБН, павінны яны стаць органам БАСу. Была нават задума паклікаць да жыцця новы часопіс, але большасць удзельнікаў З'езда выказалася за захаваннем старой назвы /традыцыі/. Аргумент за: "Сыстрэчы" маюць ужо сваю марку, беларускі свет пра іх ведае. Ад таго, што на іх старонках было надрукавана, не адракаемся. Таму і рашылі захаваць апрача загалоўка і агульную нумерацыю. Маем надзею, абапертую на магчымасцях, выдаваць "Сыстрэчы" прынамсі 4 разы у год. Самі сабе жадаем настойлівасці і сістэматычнасці. Няхай Усявышні блаславіць нас сваёй ласкай, а чытачы дапамогуць матэрыяльна.

# ПРАМОВА СТАРШЫНІ НА *ІІ З'ЕЗДЗЕ БЕЛАРУСКАГА АБ'ЯДНАННЯ СТУДЭНТАЎ*

Мінуў год ад часу, калі мы сустрэліся на І з'ездзе Беларускага аб'яднання студэнтаў. Шмат эмоцыяў, надзеяў, а таксама пытанняў спадарожнічала гэтаму з'езду. Ці студэнцкі рух мае шанц увайсці трывала ў рэаліі беларускага жыцця ў Польшчы, а таксама зазначыць сваю прысутнасць на агульнабеларускім фоне? Адказам на гэтае пытанне няхай будуць мерапрыемствы, якія арганізаваліся намі. Нашыя дасягненні і паражэнні трэба разглядаць у агульным грамадска-палітычным кантэксце. Падзеі 1989 года ў Польшчы былі такія бурлівыя, што мусілі паўплываць і на нас. Не маючы арганізацыйнага досведчання, БАС быў змушаны займацца адначасна палітычнай, культурнай, турыстычнай і іншымі формамі дзейнасці. Было гэта вынікам адсутнасці нармальнага беларускага палітычнага і грамадскага руху на Беласточчыне.

БАС, упершыню ў Польшчы, святкаваў 71 гадавіну БНР афіцыйна, прымаў удзел у выбарчай кампаніі нашых кандыдатаў у Сойм і Сенат, арганізаваў некаторыя мітынгі. Нашых мерапрыемстваў магло быць шмат больш, але справа найважнейшая, гэта недахоп людзей да канкрэтна арганізацыйнай працы. БАС - арганізацыя студэнтаў, і тое што робіць адбываецца грамадскім пачынам. Няма ў нас штатаў, сакратарак, пенсій, аб чым некаторыя не ведаюць,дамагаючыся ад нас рэчаў нам не пад сілу.

Усе дакладна бачым і адчуваем агульны крызіс у жыцці краіны. Эканамічная сітуацыя не дазваляе многім беларускім студэнтам уключыцца ў дзейнасць Аб'яднання. Усё часцей даводзіцца развітвацца з сябрамі, якія выязджаюць на Захад, чымсці іх вітаць. Што гэта значыць для нас , не трэба тлумачыць. Нашыя сілы не вялікія, а працы на роднай ніве ўсё больш.

Гледзячы з перспектывы года, некаторыя пастановы, якія тады былі прыняты, аказаліся завялікія на нашыя сілы. Сёння, ужо без такіх эмоцыяў, мы мусім спакойна разглядзець нашу сітуацыю і магчымасці далейшай працы. З прыкрасцю мусім адзначыць, што на Беласточчыне, нашай Бацькаўшчыне, усё часцей здараюцца нацыянальныя непаразуменні. Беларусы пачынаюць ядчуваць пагрозу свайго існавання. Дзеля абароны нашае нацыі БАС павінен супрацоўнічаць з усімі беларускімі арганізацыямі, якія лічаць нацыянальную справу найважнейшай. Не забывайма аднак, што мы на Беласточчыне ў меншасці і таму больш увагі трэба прысвяціць наладжанню лепшых сувязяў з дэмакратычнымі арганізацыямі ў Савецкай Беларусі і сярод суродзічаў-эмігрантаў. Першым крокам у гэтым кірунку можна лічыць дагавор між БАС-ам і Арганізацыяй беларуска-амерыканскай моладзі, які быў падпісаны на сёлетнім Купаллі ў Супраслі.

Усе нашыя намеры і магчымасці будуць нерэальныя без моцнай эканамічнай падставы. Трэба, адным словам, задумацца, як зарабіць грошы на дзейнасць, бо з самых складчын нічога не зробім. Мусім абмеркаваць, чаго можам дабіцца нашымі сціплымі сіламі.

Працы ёсць многа, але толькі ад нас саміх залежыць, ці праз год, калі будзе III з'езд БАСу, мы будзем маглі сказаць, што зрабілі добрую работу.

Старшыня БАСу
Яўген Вапа

## СУСТРЭЧЫ З СУРОДЗІЧАМІ

### Гродзенскія самадзейнікі

У нас вялікае свята,
Цешцеся, беластаччане!
Прывезлі да нас экспанаты:
Родную мову, песню і танец.

Вось уваходзяць на сцэну,
Выпаласканыя з беларускасці чыста,
У народных уборах манекены,
Самадзейныя гродзенскія артысты.

І паўтараюць яны бездакорна
Вызубраныя словы, мелодыі, крокі.
Уваскрасае мінулае зорнай
Беларусі маёй сінявокай.

Са сцэны з настроем прыўзнятым
Сышлі самадзейнікі з Гродна.
Беларускія экспанаты
Загаварылі на "общенародной".

22 лютага 1989 г.
Віктар Швед

# Я думаў пабачыць Бангладэш

Узяць асобнае інтэрв'ю ў Данчыка мне не ўдалося з-за перагружанай праграмы пабыўкі спевака ў нашай краіне. Але я меў нагоду пачуць ягоныя выказванні ў некалькіх месцах: на літаратурным семінары "Белавежы", на сустрэчы з БАСаўцамі ў Лёніка Тарасэвіча, пад час канцэрту ў беластоцкай філармоніі. Асабліва цікавымі выдаліся мне ўражанні песняра з Савецкай Беларусі. Я яшчэ ў Валілах дамовіўся з Данчыкам, што з памяці буду запісваць сказанае ім, а ў Варшаве ён аўтарызуе напісанае. Так і сталася. Пасля спаткання ў варшаўскім клубе БГКТ я паказаў Данчыку свае занатоўкі. Супольна надалі мы ім канчатковую форму. Ды, усё ж такі, удалося мне паставіць яму яшчэ пару пытанняў. Таму гэты матэрыял гатункова не аднародны. Спачатку ідуць словы Данчыка, сказаныя ў розных месцах, пры розных нагодах, потым адказы на мае тры пытанні ў варшаўскім клубе БГКТ.

Усюды на Беларусі сустракаўся я з вялікім зацікаўленнем і сардэчным прыёмам людзей. Афіцыйных, вялікіх канцэртаў даў з пятнаццаць, з чаго ў Менску - шэсць. Апрача Беларусі пабываў у Маскве, Ленінградзе, Вільні, на Украіне, дзе таксама выступаў перад тамтэйшымі беларусамі. Маімі неадлучнымі спадарожнікамі былі Лёня Барткевіч і Сяргей Сокалаў-Воюш, якія таксама выступалі са мною.

Паездка на Беларусь шмат у чым змяніла мае ўяўленні аб ёй. Я спадзяваўся пабачыць нейкі Бангладэш, такога аднак не было. Праўда, я бачыў нястачы самых неабходных тавараў, як хаця б туалетнай паперы, бачыў чэргі за рознымі прадуктамі. Тэхніка там устарэлая, стан, скажам, тэлефонаў - жахлівы; на канцэртах даводзілася пераадольваць непаслухмяныя мікрафоны. Аднак я адразу трапіў у вельмі добрыя рукі і мяне штодзённыя клопаты ды змаганні абміналі. Усюды прымалі мяне вельмі ветліва, сталы гнуліся ад ежы і ўсялякіх пачастункаў. Ікру елі мы лыжкамі. Больш таго, на кожным канцэрце я меў побач "Пепсі-колу", да якой я вельмі прывык і без якой жыць не магу. Я, проста, пепсіхолік. На штодзень я не п'ю і амаль не куру, але на працягу цэлае мае пабыўкі ў Беларусі не было дня без аднаго і другога .

Пабачыў я вялікі адраджэнскі зрух сярод моладзі. Чуў я раней пра заняпад беларускай культуры, мовы, але моладзь, з якою я спатыкаўся, валодала беларускаю мовай дасканала. Віталі мяне з бел-чырвона-белымі сцягамі. У канцэртных залах была прысутная нацыянальная сімволіка. Цудоўна такое пабачыць. Я ў Амерыцы ніколі не меў такое публікі. У Амерыцы гаварылася, што на

Беласточчыне наглядаецца нацыянальнае адраджэнне. Але там не ўяуляюць адраджэння ў Менску. Калі б узяць вашае адраджэнне, нашае адраджэнне ў Штатах і злучыць супольна, гэта вельмі памагло б беларускаму фронту ў Менску.

Ці я згадзіўся б пераехаць жыць у Беларусь? Бачыце, справа складаная. Я нарадзіўся і жыву ў Злучаных Штатах. Прывык, што ў любую хвіліну магу пайсці куды схачу, рабіць тое, на што маю ахвоту. Ніхто мне не гаворыць, што маю чытаць, якія фільмы глядзець, з кім сустракацца ў кавярні, а з кім не. Я проста прывык да свабоды, дэмакратыі і мне цяжка было б жыць у іншай сістэме. А тут ужо на мяжы, мытнікі доўга задумваліся, дазволіць мне перавезці "Архіпелаг ГУЛаг", ці не. Таксама справа з Сяржуком Вооюшам. Ягоная папулярнасць настолькі вялікая,што яго хтосьці чамусьці баіцца. Нам сказалі, што было б лепш не памяшчаць яго на плакатах. На канцэртах мы з Лёнем выклікалі яго проста з залы і ён усе-такі мог праспяваць свой "Фронт". Нават згоды на мой прыезд у Беларусь мусіў я чакаць дванаццаць гадоў.

**– А якія твае самыя прыемныя ўражанні ад пабыўкі ў Беларусі?**

Мне пашчасціла на сустрэчы з цудоўнымі людзмі. Сярод іх я б вылучыў Сяргея Новіка-Пеюна. Цэлае ягонае жыцце было працягам няшчасцяў, трагедый, розных ссылак і лагераў. У яго на вачах загінула жонка. Аднак сёння гэтыя вочы зіхацяць цяплом, дабратой, столькі ў іх добразычлівасці. Ён падарыў Беларусі і цэламу свету цудоўную песню "Зорачкі".

**–Ці бачыш розніцу паміж намі і саветамі?**

Людзі ў Польшчы жывуць намнога лепш, чымсьці у Савецкім Саюзе. Калі я першы раз, у 1981 годзе, пакінуў Польшчу і самалёт прызямліўся ў Стакгольме, было гэта так, як пераехаць з чорна-белага фільма ў каляровы. А цяпер, пасля шасці тыдняў у Савецкім Саюзе, тут я адчуваю сябе, як у Холівудзе. Ды і людзі тут больш адкрытыя, вясёлыя. Нават воплескі іншыя, бо ў Саюзе нейкія механічныя, мала эмацыянальныя.

**–Данчык, мне пасля твайго канцэрта ў беластоцкай філармоніі даводзілася спаткацца са словамі, што на ім перашкаджала моладзь.**

Няпраўда. Зусім наадварот! У Беластоку даў я два канцэрты. І хоць на другім я быў ужо змучаны, спяваць было куды лягчэй. Як толькі запуанапі сцягі, калі я пачуў рэакцыю моладзі, што стаяла ззаду, я адчуў лучнасць з аўдыторыяй. І гэта вельмі дапамагае ў спяванні. Стварылася ўласцівая атмасфера. Не ўяўляю сабе, што камусьці гэта можа перашкаджаць.

**–Дзякуй, Ты супакоіў маё сумленне, бо і я быў у гэтым натоўпе,які некаторым перашкаджаў успрымаць Тваё мастацтва, але Табе дапамагаў яго тварыць.**

Запісаў Мікола Ваўранюк.

# Імкнуцца да прафесіяналізму

Сяржук Вітушка за апошнія чатыры гады, як старшыня менскай маладзёжнай суполкі "Талака", быў у цэнтры грамадска-палітычных падзеяў на Беларусі. Гаворым з ім пра тое, што робіцца цяпер у БССР, пра дасягненні і надзеі адраджэнскага руху, урэшце пра перажыванні ды сумненні аднаго з лідэраў г.зв. нефармалаў.

Сустрэчы: **Сяржук, ты апошнім часам стаў улюбёным аб'ектам грубых нападаў партыйнай прэсы. Чаму? Як сябе адчуваеш, як галоўны герой такіх вульгарных публікацый?**

Сяржук Вітушка: У аніякім выпадку не лічу сябе галоўным героем аглабельнай партыйнай крытыкі. Такім героем з'яўляецца, безумоўна , Зянон Пазняк, ды іншыя кіраўнікі Беларускага народнага фронту "Адраджэнне". Чаму мая асоба ўпамінаецца даволі часта ў апошніх нумарах "Политического собеседника" - застаецца і для мяне загадкай. Тым больш, што не вяду цяпер актыўнае дзейнасці. Каб гэта было ў 1987 або ў 1988 гадах, мог бы я гэта яшчэ неяк зразумець. "Талака" імкнулася тады актыўна ўплываць на падзеі ў Беларусі. Праводзіла забароненыя мітынгі, арганізавала самвыдаты. На роўным грунце, дзе не было нічога, наша група вытыркнулася высока, была заўважана, як грамадствам, так і ўладамі. "Талака" абяцала, што будзе прымаць актыўны ўдзел у выбарах і некаторыя старыя талакоўцы /Віктар Івашкевіч, Вінцук Вячорка/ рыхтуюцца да сёлетніх выбараў у Вярхоўны савет БССР. Іхняя прысутнасць для ўладаў непажаданая і як сродак знішчэння канкурэнтаў прымяняюцца самыя брудныя спосабы. Замест дыскутаваць, лепш назваць фашыстамі.

С: **І табе, як чалавеку цесна звязанаму з "Талакою", даводзіцца атрымліваць удары асабіста?**

С.В.: Чатыры гады запар быў я старшынёю "Талакі". Восенню мінулага года перастаў афіцыйна выконваць гэтую функцыю, але на маё месца ніхто не быў выбраны. І хаця мая грамадская актыўнасць рэзка панізілася, відаць, задзейнічала тут запозненая рэакцыя. Партыйныя апаратчыкі толькі цяпер схамянуліся, што трэба даць рэзкі адпор "Талацэ", найлепш праз маю асобу. Тым больш, што маё адступленне ад грамадскай дзейнасці толькі часовае. Да таго ж, ім выгадны былі б здраднікі. Можа яны задумалі пакарыстацца мною і такімі націскамі хочуць прымусіць мяне да змены пазіцыі.

С.: **Давай вернемся да пачаткаў. Скажы, як узнікла "Талака" і калі гэта было?**

С.В.: Восенню 1985 адбыліся першыя талокі на Траецкім прадмесці. Гэта і быў пачатак нашай суполкі. Яе стварылі людзі, якія былі раней у Беларускай спеўна-драматычнай майстроўні. Майстроўня самараспусцілася ўвесну 1984 года, пасля няўдалай спробы абароны

будынку першага прафесійнага беларускага тэатра на Пляцы волі. Была гэта першая спроба несанкцыянаванага мітынгу ў Менску, пасля якой Майстроўня была прымушана або пакаяцца, або знікнуць. Выбрала апошняе. Першыя сходы "Талакі" выглядалі так, што маладыя, нацыянальна свядомыя людзі збіраліся разам дзеля інтэлектуальных пошукаў, зараджэння творчага працэсу. Многа дыскусій прысвячалася стану - беларускага грамадства, высвятленню прычынаў ягоных бедаў, хвароб. Задумоўваліся, чым мы маглі б дапамагчы. Пастанавілі выкарыстоўваць, перад усім, легальныя формы дзейнасці, арганізавалі талокі - рэстаўрацыя, археалагічныя раскопкі, краязнаўчыя вандроўкі, адраджалі фальклорныя святы - Купалле, Каляды, ладзілі літаратурныя вечарыны /Геніюш, Караткевіч/, лекцыі па гісторыі і мове. Праблему мовы лічылі страшэнна актуальнай. Трэба было стварыць асяродак, дзе можна было б гаварыць па-беларуску. Галоўнай мэтай, якую сабе паставілі быў пошук свядомай моладзі і яе выхаванне. Чатыры гады "Талакі", гэта рэалізацыя тых ідэй, тае праграмы, якую самі склалі. Вынікі? Штосьці прыжылося, штосьці не. Талокі, на прыклад, у свой час спраўдзіліся, далейшую іх рэалізацыю бачу ў руху студэнцкіх рэстаўранцыйных атрадаў. Пад час вакацый студэнты выязджаюць працаваць на месяц, зарабляюць грошы і робяць вялікую работу. Выратаваная і адрэстаўраваная віцебская царква - канкрэтны доказ. Агітацыя ў бацькоў за беларускімі класамі таксама прынесла добрыя вынікі. Калі цяпер ад чаго адракаемся, дык гэта не ідэі, толькі спосабы іх ажыццяўлення. Напрыклад народныя святы. Я не бачу сэнсу ў арганізацыі вялікіх масавых святкаванняў. У кожнай вёсцы было святя на невялікі гурт людзей, калі іх замнога, проста фізічна немагчыма кантраляваць сам ход мерапрыемства. Трэба працаваць з невялікай групай людзей, ствараць фальклорны тэатр, які імкнуўся б да прафесіяналізму, запісваць гэта на відэа і распаўсюджваць, хай людзі глядзяць.

С.: **Чатыры гады існавання "Талакі", гэта даволі многа. Напэўна за той час наступілі змены.**

С.В.: Змяніўся, перад усім, асабовы склад клуба. З тых людзей, якія збіраліся на першыя сходы "Талакі" ў 1985 годзе, астаўся адзін я .Хтосьці ажаніўся, хтосьці стаў на працу, пайшоў у Фронт. Адразу мушу зазначыць, што мы не сварыліся, гэта, лічу, нармальны працэс. Прыйшло многа новых людзей. Змянілася сітуацыя ў Беларусі, ёсць новыя праблемы, узніклі новыя арганізацыі: Таварыства беларускай мовы, Фронт. З'явіліся новыя, падобныя на "Талаку", суполачкі ў іншых гарадах. Зрэшты, цэлы Савецкі Саюз і сатэліцкія краіны перажываюць каласальныя змены. Агульная геапалітычная сітуацыя патрабуе новых формаў дзейнасці, але і новых ідэй. Новыя думкі для нас асабліва важныя, каб мы захавалі сваю адметнасць, каб не пераўтварыцца толькі ў групу падтрымкі Народнага фронту, яшчэ адну.

С.: **Ці ў цябе такіе ідэі ёсць?**

С.В.: Процьма, але я не ведаю, што думаюць мае маладыя калегі. Яны самі занадта не хочуць думаць, спасылаюцца на аўтарытэты. Чуліся нават галасы, ці не лепш было б распусьціць "Талаку", каб не ганьбіць неадпаведнымі дзеяннямі, ўсё ж такі, ужо даволі слаўнае імя, можа калі-небудзь адродзіцца са старых сяброў. Я цяпер хутчэй за ўсё, назіральнік, нікому не хачу навязваць сваіх думак.

С.: **Але ж маладыя патрабуюць лідэраў. Калі ты ім перастаў быць, значыць, штосьці не так.**

С.В.: Я на ростанях. Мушу зрабіць выбар, ці заняцца навукай, салідна, на акадэмічным узроўні, ці палітыкай. Гэтыя дзве сферы не сумяшчальныя і трэба рашыцца на адну.

С.: **А Пазняк?**

С.В.: Трагедыя. Я чытаў яго кніжкі па гісторыі Менска, многа чуў пра яго. Паважаю яго перш за ўсе як навукоўца, класнага інтэлігентнага прафесіянала. Сёння палітычная дзейнасць забірае яго ўсяго. Калі ён пойдзе ў прафесійныя палітыкі, страцім навукоўца. А палітык павінен быць прафесійным, вучыцца змалку. Але, з другога боку, мы не можам чакаць на гэта, таму лепш Пазняк чым ніколі.

С.: **Табе не здаецца, што Ты губляешся ў думках?**

С.В.: Сапраўды, які сэнс у гэтым інтэрв'ю, што яно дасць?

С.: **А што ты хочаш каб дало?**

С.В.: Інтэрв'ю трэба браць у людзей смелых, сфармаваных, якія б пераказвалі новыя ідэі. Нашто вашым чытачам мае хістанні, успаміны?

**З гэтага месца размова набрала зусім іншы кірунак, які настолькі багаты, што запоўніў бы новае інтэпв'ю. На жаль, ён не сумяшчальны - гатункова і тэматычна - з раней выказанымі меркаваннямі. Можа калі - небудзь, на падставе яго будзе надрукованы асобны матэрыял, а можа і не.**

**Размову вялі і запісвалі**
**Яўген Вапа і Мікола Ваўранюк**
**/а было гэта ў студзені г. г./**





# ГРУНВАЛЬД

Grünwald

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

СТУДЗЕНЬ 1990 НАВІНЫ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ №1

**У студзені г.г. пабачыў свет першы нумар часопіса беларусаў у Эстоніі " Грунвальд ". З галоўным рэдактарам Валерым Чымыкам размаўляе наш карэспандэнт у Мюнхене.**

Сустрэчы: **Скажыце, калі ласка, некалькі слоў пра вашу газету. Хто і дзе яе выдае?**

**Валеры Чымык:** Выдаўцом газеты з'яўляецца Беларускае культурнае таварыства "Грунвальд" у сталіцы Эстоніі, Таліне. Там яна і друкуецца. Таварыства было афіцыйна зарэгістраванае ў верасні 1989г. пры Эстонскім фондзе культуры. Супрацоўнічае яно з усімі грамадскімі арганізацыямі ды палітычнымі партыямі, дзейнасць якіх накіраваная на адраджэнне незалежнасці Эстоніі. Задума выдаваць беларускі незалежніцкі часопіс зрадзілася яшчэ да рэгістрацыі Таварыства. Перш за ўсё для распаўсюджвання ў БССР, бо ж друк у Беларусі поўнасцю падпарадкаваны партыйнаму апарату. У Эстоніі, трэба гэта падкрэсліць, выдаецца больш шасцідзесяці незалежных газетак з дазволу ўладаў, а ў Беларусі - ніводная. У Эстоніі шмат якія нацыянальнасці выдаюць свае часопісы, але толькі "Грунвальд" друкуецца нацыянальнай моваю.

C. - **Як часта выдаецца ваш часопіс і які ў яго тыраж?**

В.Ч. - Тыраж першага нумара - 25 тысяч экзэмпляраў, але ўжо наступныя нумары будзем друкаваць тыражом 50 тысяч. Пакуль што, "Грунвальд" выходзіць раз на месяц, але ад красавіка хочам выдаваць яго раз у два тыдні.

C. - **А дзе ён разыходзіцца? Няўжо ў Эстоніі столькі беларусаў?**

В.Ч. - Не. Я ўжо раней сказаў, што часопіс накіраваны на БССР, там і распаўсюджваецца большасць паасобнікаў. Але высылаем яго і ў другія рэспублікі Саюза ды ў некаторыя краіны Захаду. "Грунвальд" прадаецца таксама ўкіёсках Эстоніі і трэба сказаць, што зваротаў мы яшчэ не мелі.

C. - **Гэта вельмі добра, а цяпер можа крыху недалікатнае пытанне. Хто і на падставе якіх дагавораў фінансуе вашае выдавецтва?**

В.Ч. - Часопіс на поўным фінансавым самаразліку, мы не



СМЕЛА, НАПЕРАД, ДА ШЧАСЦЯ, ДА ЗОР !




Крытычны погляд на сябе згары.



"ГАРЭЛА СОСНА ПАЛАЛА..."



Сяброўская сустрэча ў рыск1м стыл1



Узн1кае карц1на Лён1ка




А цяпер куды ?

# БОДО

ВОСЬ ТАК





# І ЖАНЧЫНЫ і МУЖЧЫНЫ



# БАСЯ



1 ўпарта да мэты !



Бурл1выя перамены і ...



Трыццатыя гады



МАНАСТЫ

ЭФЕКТ →



Намерваецца...









БАС






Галасую за !



Давайце што-небудзь зроб1м





Нам не пад с1лу

Камісіі: прапаноў↑ выбарчая↓



Яны вял1 з'езд →



карыстаемся ніякай вонкавай дапамогай, зусім наадварот - за надрукаваныя матэрыялы аўтары атрымліваюць ганарары. Пакуль мы яшчэ не можам утрымоўваць пастаянных карэспандэнтаў, але ў будучыні і яны будуць у "Грунвальдзе" працаваць.

С. - **Як выглядае цяпер рэдакцыя, колькі людзей і колькі штатаў налічвае?**

В.Ч. - У рэдакцыйнай калегіі тры асобы: рэдактар, адказны сакратар і карэктар. Дзве жанчыны працуюць грамадска і, апрача выдавецкай дзейнасці, маюць пастаянныя месцы працы. Толькі я адзін штатны работнік газеты, а заадно і Таварыства.

С. - **Ці "Грунвальд" падзелены на нейкія тэматычныя рубрыкі?**

В.Ч. - Пакуль няма ў нас пастаянных дзялянак, але хочам, каб у кожным нумары было нешта пра гісторыю, культуру, рэлігійнае жыццё ды бягучыя грамадска-палітычныя праблемы, якія нуртуюць беларусаў на бацькаўшчыне і за яе межамі. Марыцца таксама асобная балонка для дзетак, гэтага нам вельмі не хапае.

С. - **Ці былі ўжо якія-небудзь водгукі на ваш часопіс? Як успрымалі яго чытачы, як крытыка?**

В.Ч. - Пасля першага нумару атрымалі мы шмат лістоў ад беларусаў з БССР, Украіны, Расеі, балтыйскіх рэспублік, а нават з Польшчы. Усе яны хваляць наш часопіс, выказваюць словы падтрымкі для нашай ідэі. Прафесійная крытыка, пакуль што не адгукнулася.

С. - **Якія ў вас выдавецкія планы на будучыню? Думаеце выдаваць яшчэ нешта, ці спыніцеся на "Грунвальдзе"?**

В.Ч. - Абсалютна не. Будзем выдаваць беларускія брашуры, календары. Хочам друкаваць таксама паштоўкі і плакаты з беларускай нацыянальнай сімволікай і наогул усё, што спрыяе беларускай справе, а чаго не можна друкаваць у БССР. Плануюцца выданні, якія будуць інфармаваць пра жыццё беларускай эміграцыі.

Адраджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў - нашая галоўная мэта, на якую будзе накіравана ўся наша дзейнасць. Гэта самая вялікая страта, якую панесла наша нацыя. Немаведама, як многа працы спатрэбіцца, каб дасягнуць узровень Прыбалтыкі. Мая мара - каб у Беларусі выдавалася хаця столькі незалежных часопісаў, што ў Эстоніі.

С. - **Шчыра дзякую за гутарку. Жадаю вам здзяйснення вашых намераў. Перадайце, калі ласка, прывітанні сваім супрацоўнікам і чытачам.**

В.Ч. - Я таксама дзякую. Прывітанні ўсім сімпатыкам "Сустрэчаў". Усяго добрага.

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

**Гутарку вёў**
**Багдан Сіманенка**

# САПРАЎДЫ ЖЫВЕ !

Прамова Алега Латышонка на святкаванні гадавіны Акту 25 Сакавіка ў Беластоку /22.III.1989г./

У адносінах да дзяржавы нацыя, дарагія сябры, вядзе сябе як жанчына. Кажуць, кожнай хочацца нейкага мужа, ды найлепш, каб свайго.

Прадаўжаючы гэту думку заўважым: Многія сваталіся да нашай Беларусі, ды ўсе, як потым выяўлялася, на жаль, жанатыя.

Святкуем сягоння дзень 25 сакавіка, дзень абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Спадар Туронак у сваім дакладзе растлумачыў падрабязна і лагічна, як заўседы, палітычныя абставіны, у якіх адбывалася абвяшчэнне. Я хачу спыніцца на тым, што ўхіляецца ад лагічнага разгляду, на нацыянальных сімвалах: сцягу, гербе і гімне.

Сама проста справа з нашым нацыянальным гербам. Пагоня была з намі заўсёды. У кожнай патрэбе: у перамозе над ворагам і ў бядзе, калі трэба было спяшацца за сваімі дзяцьмі ўздагон. Пошчак ейных капыт праводзіць нас праз стагоддзі. Пагоня найбольш відомы знак непарыўнасьці нашых традыцый.

Больш складаная справа з нашым сцягам. Яго паходжанне і значэнне на здзіў няяснае, хоць нарадзіўся ён параўнальна нядаўна. Кажуць, гэта выразак з беларускай кашулі перапаясанай крайкай. Так гаварыў мне мой бацька і я змалку гэтага не ўспрымаў. Як жа ж гэта так - выразак?! Цяпер я гісторык і магу нейк свае інтуіцыі абаснаваць.

Гартаем Міхася Раманюка "Беларускае народнае адзенне": "Мужчынскі касцюм сціплы паводле аздаблення. У ім пераважаў белы колер, а дэкор прыпадаў на каўнер, пазуху кашулі і, перш-наперш, на кідкі ў вочы featureознакаляровы пояс з кутасамі." Чаму ж тады крайка на беларускім сцягу якраз чырвоная?

Слуцкім паўстанцам бел-чырвона-белы сцяг прыводзіў на думку пралітую імі кроў на белым кужалі бінтаў. Тут, здаецца, набліжаемся да сутнасці справы. Усё ж такі случчакі выйшлі на бой ужо пад гэтым сцягам. Каб праясніць значэнне ягоных колераў, мусім загаварыць на той мове, на якой гаварылі яго стваральнікі, на мове рэвалюцыі.

Зачытаю цяпер апісанне адкрыцця I Усебеларускага з'езду. Не магу пры гэтай нагодзе паўстрымацца ад цытатау на расейскай мове, мове сусьветнай рэвалюцыі:

"8 гадзін 45 мінут вечара. Падымаецца заслона. На перадзе стол прэзыдыума. Ззаду савет старэйшых. У цэнтры стаіць белы сцяг, на якім напісана: **»НЯХАЙ ЖЫВЕ ВОЛЬНА БЕЛАРУСЬ«**. Злева нацыянальны чырвона-белы сцяг з надпісам **»ЗА РОДНЫ КРАЙ, ЗА ВОЛЬНУЮ БЕЛАРУСЬ«**. Справа чырвоны сцяг Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

Старшынствуе Рак-Міхайлоўскі "Народ белорусский. Мне выпала высокая честь открыть этот съезд. Через Ваши плечи я вижу всю Белорусь. Вы пришли сказать свое слово. Работайте на благо своего народа. Нехай жыве вольная Белорусь (Бурные аплодисменты).

Вайсковы аркестр грае марсельезу. Крыкі: "УРА" Зноў марсельеза. Нехта абвяшчае **"НЯХАЙ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ РЭСПУБЛІКА!"** /авацыі/. Зноў марсельеза. нехта з ложы гаворыць: "Почтим вставанием память всех положивших свою жизнь за родину и свободу". Усе стаяць. Аркестр грае пахавальны марш.

У той час ззаду старшынскага стала становіцца беларускі хор /.../ "Ад веку мы спалі" дружна і стройна заасьпяваў хор беларускую марсельезу. Прыгожа палілася свабодная песня беларускага пралетарыята. Ні адной фальшывай ноткі. Быццам адзіныя грудзі аддаюць тыя гукі. Скончылі. /Бурные аплодисменты переходят в овацию /. Хор пяе беларускі гімн "А хто там ідзе...". Вялічэзны гімн ад зараз свабоднага народа свабодна вырываецца з маладых грудзей. /Снова овации /. Хор пяе беларускі рэвалюцыйны гімн "Кроў нашу льюць даўно ўжо каты...". /Долгие овации были ответом хору /.

"Але на гэты вялікі дзень пад канец кінула цень нахабства прадстаўніка, паводле ягоных слоў, латышскага народу, а больш праўдападобна па-просту нахабнаага бальшавіка,які прапанаваў нам, сапраўдным сынам шматпакутнай, але ад зараз свабоднай нацыі, выкінуць наш сцяг. /Какая бульварная дерзость! Какое оскорбление всему белорусскому народу! /."

Глянем яшчэ ў надрукаваныя пратаколы з'езду:

Прадстаунік латышоў: "Мы стоим за братство всех народов. Не должно быть деления на нации" Паказваючы на нацыянальны беларускі сцяг гаворыць: "Бросьте этот флаг".Шум, крыкі: вон, дамоў. Многія кідаюцца к аратару. Крыкі не замаўкаюць, пакуль яго не вывелі за сцяну.

Мамонько: "Латышы за самавызначэнне народаў, а гэта нейкія адшчапенцы. Я служыў на фронце разам з латышамі і знаю, як яны глядзяць на самавызначэнне. Якое маюць яны права патрабаваць кінуць наш сцяг?" Крыкі: гнаць яго!

Шантыр: " Я разумею левых соц-рэвалюцыянераў, але калі нам гавораць забыць сваю бацькаўшчыну - вось гэта я ўжо не разумею. Асыміляцыя, гэта рабства. Чаму мы сабраліся сюды? вас прывяло сюды, брацця, нацыянальнае пачуцце. Нацыянальнае адраджэнне ніколі не загіне" / Бурные аплодисменты /.

Ген. Аляксееўскі падыходзіць і цалуе сцяг.

Плішэвіч. Селянін Мінс.губ. /у сярмязе/. "Якую знявагу мы зараз пражылі. Мы цёмныя людзі, але такіх вучыцеляў як гэты латыш, нам не трэба!" /Бурные аплодисменты и овации. Несколько человек подбегают и поднимают его на руки и качают/. "Неабходна абараняць сцяг і паважаць яго". /Бурные аплодисменты/.

А вось яшчэ адна занатоўка:

"У грубай, не тактычнай форме аратар паказваючы на беларускі сцяг сказаў: "Уничтожте его и повесте красный"

Працытаваныя мною даклады, пратаколы і адгалоскі надрукаваныя былі ў газеце ,што выходзіла ў Менску, у якім улада была ў руках бальшавікоў. А вось іншае сведчанне:

"Бальшавіцкі нарком па нутраных справах Разанскі [прозвішча быццам мала латышскае, але сапраўднай нацыянальнасці і прозвішчаў усіх тых рэвалюцыянераў "без водкі не разберош"] назвау беларускі сцяг "трохколернай анучай", прапануючы змяніць яго чырвоным сцягам інтэрнацыянала".

"Трохколерная ануча". Вось вам канкрэтна тая "бульварная дерзость", тое "оскорбление", тая "грубая, не тактическая форма". "Трохколерная ануча"...

Маляўнічыя сцэны з жыцця І Усебеларускага кангрэсу прывёў я дзеля пэўнай мэты. Яны дазваляюць нам выкрыць сапраўдны, сімвалічны сэнс колераў нашага нацыянальнага сцяга.

Белы колер, гэта прыроджаны колер Белай Русі. Чырвоная паласа, гэта і сапраўды струмень "крыві нашай" якую "льюць даўно ўжо каты". Чырвоны колер гэта несумненна колер рэвалюцыі. Чырвоны сцяг БСГ красаваўся на зале З'езду побач з нацыянальным. Сам ён апісваецца зрэшты як "чырвона-белы", што паказвае на важнасць чырвані ў ім.

Такім чынам, наш бел-чырвона-белы сцяг, гэта сцяг беларускай народнай рэвалюцыі. Нарадзілася яна з агульнарасейскай і даспела на І З'ездзе, каб вуснамі сярмяжнага Плішэвіча заявіць: " Не трэба нам вучыцелёў, трэба абараняць сцяг і паважаць Яго".

Апошняе слова заставалася пакуль што за наркомам Разанскім.

Ноччу з 17 на 18 снежня ён "разам з камандзерам гораду Крывашэіным увайшоў у залу нарад і заявіў прысутным аб развязанні З'езду і араштаванні ягонага прэзідыума. Паміма гэтага старшыня Серада заяуляе, што нарады прадаужаюцца. Крывашэіну скідаюць шапку з галавы і абражаюць Яго дзеяннем. У адказ на гэта на залу уваходзіць камандзер І менскага стралковага палка Рамнеў з атрадам салдатаў, якія акружаюць пэзыдыум. У зале робіцца мітусня, будуюцца барыкады, пачынаецца кулачны бой. Усё ж такі паміма супраціўлення арыштаваны прэзыдыум быў адведзены ў савет народных камісараў.

З гэтай пары беларускі рух увайшоў пакуль-што на "нелегальны шлях". Шлях гэты давёў яго да абвяшчэння незалежнасці.

Сцяг які абаранялі спачатку словам, потым кулакамі, на канец трэба было абараняць зброяй. Тры гады пасля згаданых здарэнняу на кліч свае Рады рушыліся сяляне Случчыны. Мужчыны і юнакі з кайстрамі за плячыма спяшаліся ў Слуцк, куды набліжаўся вораг. Далёка за вёску праводзілі іх жанчыны і дзеці. Старэйшыя сяляне збіралі харчы, а дзяўчаты тонкі кужаль на бінты, які ўжо недоўга меў зафарбавацца чырвонай крывёю. У след за случчакамі ляцеу заклік: " **ТРЫМАЙЦЕСЯ ХЛОПЦЫ** ".

27 лістапада 1920 года І слуцкая брыгада пад гукі маршавай песні "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" пайшла у няроўны бой. Аўтар тае песні, Макар Крауцоў, быў у радах случчакоў.

На I З'ездзе спяваліся тры песні, якія называліся беларускімі гімнамі: "Ад веку мы спалі"- беларуская марсельеза, "А хто там ідзе"- беларускі гімн, "Кроў нашу льюць доўга ўжо каты"- беларускі рэвалюцыйны гімн. Усе тыя песні створаныя ў дарэвалюцыйны час. Гэта гімны беларускага народу. Нацыянальным гімнам стала песня случчакоу. " Ужо сцяг наш бел-чырвона-белы пакрыў сабой народны рух ". Случчак гэта ўжо не мужык. Гэта беларус, які са зброяй у руках змагаецца за сваю Рэспубліку.

Народ можа існаваць без сцяга. Нацыя гэта ідэйная супольнасць. Ёй неабходны сцяг.

Мой дзед калісці, пасля вайны, убачыў чырвоную паласу на белым, знак турыстычнага шляху. Усхваляваны, сказау жа майму бацьку: " Глядзі сынок! Няужо ж нашыя тут былі? "

Дзесяцігоддзямі даводзілася нам бачыць нашы колеры толькі ў такой форме. Першы раз пабачыў я як ўецца на ветры наш сцяг толькі поў года таму. І зразумеў, як ён быў мне патрэбны.

Бо на прывітанне табе прапануюць кінуць тую анучу, а потым трэба кідаць сваю мову, памяць ды імя. Ты становішся нічыйны і ўсіхны. І варочаюць табой як скацінай.

Жывем мы ў свеце, у якім няма нічога трывалага. Дабро прыдбанае вякамі абарочваецца ў пыл. Узарваны нашы святыні, развалены замкі, хаты. Няма ўжо хутара, дзе нарадзіўся мой бацька, і вёскі, дзе нарадзілася мая маці. У нашай часапрасторы найбольш трывалае тое, што лятучае - ідэі.

Таму дарма гаварыць што Акт 25 Сакавіка застаўся на паперы. Напісанае застаецца. Яно нам спадчына і заданне. Быць незалежным, быць сабой... Як беларус, як чалавек.

Перад шматгалосым хорам, што ад пакаленняў паўтараў: "Забіты беларускі народ" нашы дзяды заявілі:"**Ж Ы В Е  Б Е Л А Р У С Ь!**".
І мы сваёй прысутнасцю пацвярджаем:

**" С А П Р А Ў Д Ы   Ж Ы В Е ! "**

Алег Латышонак




**ЧАСОПІС БЕЛАРУСКАГА АБ'ЯДНАННЯ СТУДЭНТАЎ**
**Аднадзёнка**, №1 /13/, **Варшава**, 1990г. **Рэдагуе калегія: Мікола Ваўранюк** /галоўны рэдактар/, **Хрысціна Гаўрылюк, Барбара Кучынская** /фота, тэхнічны рэдактар/, **Юрка Навацкі** /вокладка і размяшчэнне здымкаў/, **Анна Наўмчук, Міраслаў Пякарскі** /тэхнічны рэдактар/. **Выкарысталіся здымкі Анны Макац і Пятра Савіцкага.**
**Адрас для карэспандэнцыі:** "Sustrečy", klub BTSK,
ul. Starościńska 1b, skr. poczt. 244, Warszawa, Poland.
**НУМАР ПРЫСВЯЧАЕЦЦА Алене, Валі, Наталі, Паліне і Севу - студэнтам пятага курса Філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**

# ...хроніка...хроніка...хроніка...

16. 12. 89г.

У памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку праводзіўся II з'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў. Год афіцыйнага існавання, гэта дастатковы час, каб асэнсаваць важнасць штодзённай працы і цяжкасці з ёю звязаныя. На з'ездзе не было святачнай атмасферы, энтузіястычных прамоў, палымяных заклікаў. Былі за тое, ад імя старых улад - канкрэтныя справаздачы з таго, што ўжо зроблена, што не ўдалося і, ад усіх удзельнікаў -прапановы арганізацыі дзейнасці ў 1990 годзе. Абгрунтоўваліся толькі рэальныя, мажлівыя да здзяйснення прапановы, за якімі стаялі канкрэтныя людзі, што дэкларaваліся пільнаваць ажыццяўлення сваіх ідэй. Тыя басаўцы, якія спадзяваліся на чарговае свята, пэўна расчараваліся, ды і маглі занудзіцца, бо дыскусія вялася ад 10.30 да 16.00 гадзіны. На тое, што не цэлы час была яна дзелавая, вялікі ўплыў мае нашае нулявое палітычнае выхаванне. Не гледзячы на дробныя спатыкненні, з'езд дасягнуў мэты: выбраў новыя ўлады, запланаваў новыя мерапрыемствы. Чытайце пра іх у "Прысутнасці".

7 - 9. 01. 90г.

На праваслаўнае Раздво ў некаторых гарадах Беласточчыны паявіліся калядніkі. У Бельску ўжо чарговы раз паказаліся члены тэатра "Парнас". У Беластоку калядавалі студэнты з БАС-а. Адведвалі яны знаёмыя беларускія сем'і з радаснай навінай; "Хрыстос нарадзіўся".

13. 01. 90г.

Беларускае аб'яднане студэнтаў і Брацтва праваслаўнай моладзі наладзілі ў Беластоку супольны навагодні баль паводле старога стылю. Частка заробленых грошай была пераказана на беластоцкую царкву Марыі Магдалены, у якой пастаянна ўжо выступаюць беларускія элементы багаслужбы: казань,апостальскія дзеі, Евангелле, некаторыя рэлігійныя песні.

18. 01. 90г.

У Беларускім універсітэце з дакладам " БНР на міжнароднай арэне" выступіла Яўгенія Шымчук. Гэта тэма яе магістэрскай дысертацыі, якую Жэня толькі што абараніла, але не збіраецца спыняць доследаў. Жадаем поспехаў.

25. 01. 90г.

У варшаўскім клубе БГКТ са студэнтамі спаткаўся Янка Жамойцін. Распавёў ён гісторыю свайго жыцця, упісаўшы яе ў рамкі грамадска-палітычных падзей у Беларусі. Асаблівую ўвагу спадар Жамойцін прысавяціў нацыянальнаму зруху беларускай моладзі ў час апошняй вайны, перш-наперш Саюзу беларускай моладзі.

10. 02. 90г.

Пачатак палітычнага жыцця беларусаў у пасляваеннай Польшчы - заснавальніцкі кангрэс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. У Беларускі грамадскі камітэт "Грамада", які падрыхтаваў кангрэс, належаў старшыня БАСу - Яўген Вапа!

17 - 18. 02. 90г.

Цэнтральны агляд беларускай песні. У Беластоцкаю філармонію БАС прыйшоў са сцягамі і выдавецтвамі. Можна было на нашым століку набыць: "Сустрэчы", кніжачкі выдавецтва "Бераг", спеўнікі, падручнікі па гісторыі Беларусі для дзяцей ды касеты з песнямі "Дубіноў", Данчыка, С. Сокалава-Воюша".

23. 02. 90г.

Запусты на вуліцы Варшаускай 11 у Беластоку. На гэты раз не было вялікага натоўпу студэнтаў. Даволі высокая цана білетаў і малая рэклама ўчынілі гэту імпрэзу больш сціплай. Склалася ўражанне - гулялі тыя, хто на гэта заслужыў.

23. 02. 90г.

У Беластоку быў паклікаңы Беларускі выбарчы камітэт. Узнікла таксама Рада беларускіх партый і арганізацый. Ейны склад: Беларускае дэмакратычнае аб'яднане, Беларускае грамадска-культурнае таварыства і Беларускае аб'яднане студэнтаў.

7. 03. 90г.

Беластоцкае радыё пачало пускаць у эфір штодзённыя 15-ці хвілінныя беларускія праграмы. Адным з рэдактараў нашых перадач з'яўляецца член заснавальніцкага камітэта БАСу - Юрка Ляшчынскі. Гэты факт дае некаторыя спадзяванні на тое, што і маладзёжная тэматыка знойдзе ў перадачах сваё месца. Асабліва, калі павялічыцца час эмісіі.

...хроніка...хроніка...хроніка...

# ПОШТА

РЭДАКЦЫІ І ЧЫТАЧАМ
ЧАСОПІСА БЕЛАРУСКІХ
СТУДЭНТАЎ У ПОЛЬШЧЫ
" С У С Т Р Э Ч Ы "

Паважаныя і дарагія сябры!

6 гадоў назад Ваш часопіс уступіў у жыццё, каб узнавіць гуманістычныя традыцыі беларускамоўнага друкаванага слова беларускай моладзі ў Польскай дзяржаве. Мы ведаем, што гэта быў высакародны ўчынак, на які здольны толькі адданыя Бацькаўшчыне маладыя сэрцы. Кожны падрыхтаваны Вамі нумар "Сустрэч" - гэта поспех беларускага слова і думкі, малюнка і журналістыкі, выхаванне грамадскай актыўнасці і беларускай традыцыі.

Здарылася так, што Ваша свята - гэта і наша свята, таму што ў пачатку сакавіка **1986** года пачала працаваць "Паходня". У сувязі з гэтым нам асабліва прыемна павіншаваць Вас з Днём нараджэння і выказаць надзею аб умацаванні і пашырэнні нашых братэрскіх сувязей.

У гэты гістарычны час мы далучаемся да заклiку Сакрата Яновіча, надрукаванага ў астатнім нумары "Сустрэч": "Беларусы! Пра нашы справы будзем гаварыць самі". Жыве Беларусь!

Сябры таварыства "Паходня"
Гародня, 12 сакавіка 1990г.

Шчыра ДЗЯКУЕМ паходненцам! Прыміце таксама і нашыя, запозненыя, віншаванні з вашым Днём нараджэння. Вашыя поспехі з'яўляюцца для нас штуршком да дзейнасці. "Паходня" не аднаму басаўцу паказала ўпершыню Беларусь, запачаткоўваючы кантакты між Беласточчынай і БССР. Маем надзею на далейшае, усё больш плённае, супрацоўніцтва. Толькі адна заўвага - лазунг "Беларусы! Пра нашы справы будзем гаварыцьсамі" быў палітычным заклікам у час выбараў у польскі парламент 4. 06. 1989г. Мы мя- ркуем, што не так і важна, хто быў яго аўтарам. Цяпер, дарэчы, цяжка ўжо гэта нават устанавіць. З артыкула А. Максімюка ў апошнім нумары "Сустрэчаў" выглядае, што прыдумаў такія трапныя словы Віктар Стахвюк. Гэтае тлумачэнне даем, каб не пакрыўдзіць фактычнага аўтара заклiку, не выключаем аднак, што быў ім і Сакрат Яновіч, прозвішча якога выступала пад гэтым лозунгам на выбарчых плакатах. Некалькі такіх плакатаў, зложаных супольна, знайшліся на вокладцы папярэдніх "Сустрэчаў".

Дзякуем Міколу Таранду за ліст і за канструктыўную прапанову абмену моладзі ды Алесю Гуркову за пастаяннае дасыланне незалежных быдавецтваў.

Рэдакцыя

# *Замежныя чытачы і сімпатыкі "Сустрэчаў"*

Мы хочам наладзіць Хутчэйшую і болей устойлівую дарогу распаўсюджвання часопіса. Займуцца гэтым нашыя прадстаўнікі ў паасобных краінах. Ужо маем два такія пункты, дзе будзе можна набыць "Сустрэчы".

У Злучаных Штатах:

Valancin Sielviesiuk
766 Bevier Rd. PISCATAWAY
N.J. 08854
USA

І ў Вялікабрытаніі:

Byelorussian Library and Museum
37 Holden Road
London N12. 8HS
GREAT BRITAIN

Калі хто хоча дапамагчы нам і згодзіцца стаць кальпарцёрам "Сустрэчаў" у Аўстраліі або краінах Заходняй Еўропы, няхай дашле свой адрас і колькасць паасобнікаў, якую зможа распаўсюдзіць. Супрацоўніцтва атрымаецца куды больш плённым, калі будуцьз гэтага нейкія грошы. З увагі на незнаемасць курсаў заходніх валют і зменлівую эканамічную сітуацыю ў Польшчы не ў змозе мы падаць цаны аднаго нумара нашага бюлетэню. Разлічваем на інтэлігэнцыю кальпарцёраў і добрую волю чытачоў.

У бібліятэкі і афіцыйныя ўстановы "Сустрэчы" будзем высылаць, як раней.

# БАСОВІШЧА

## ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫКІ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

13-15 ЛІПЕНЯ 1990 ГОДА

ГАРАДОК

